ЛЮДМІЛА
ЗАБАЛОЦКАЯ

# Радавоены васілёк

ВЕРШЫ



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1981

* * *

Без дабрыні,
Без яснаты
Пражыць нікому немагчыма.
Дзіця
У свет нясе жанчына,
І лагаднее гнеў круты.

Стагоддзям
Радасна сівець,
Займацца раніцам нявінна...
Дзіця нясе
У белы свет,
Працяг сябе
Нясе жанчына.

* * *

Ідал у копішчы выжыў,
Як дзіва,
Амаладжала сякера
Ствалы.
І расступаліся
Сцежкі пачціва.
Крэплі далоні
Ад свежай смалы.

Мохам зязюльчыным
Ці дзеразою

Сцежкі засланы,
Дзе боль адканаў.
...Ідал сыходзіў
З каменнай слязою,
Нібы пякельнасць жывога
Спазнаў.

* * *

Шасціць журбою адшчымелай
Падснежны верас,
Нібы звон.
О, сынаў дзень,
Цнатліва-белы —
Зірні
З прагалістых акон.

* * *

Туманкам
Шчаўе пляжыла каса,
І крыўда кані
Жалілася смела.
Цярплівых смолак
Позняя краса,
Нібы агнішча,
Здоўжана гарэла.

Ішло на звод
Няшчодрае цяпло...

Атава
Охрай бралася на межах.
...Табой, забытым, ранішнім,
Жыло
Сівое сонца
У старажытных вежах.

* * *

Бучнее на сцяжынах ранніх мята,
Жаўцее жыта,
Сохнуць васількі.
Былое
Раптам гляне вінавата
З-пад матчынай даверлівай рукі.

Агорне горыч,
Цяжкая знямога —
Вярнуся ў першабытнае цяпло.
І ключ стары
Чакае ля парога,
І зайчыкам у шыбіне —
Святло.

* * *

Келіх месяца ў квадры апошняй.
Клычыць мох
Клышаногі алень.
Вецер стомлены
Дрэмле на пожні,

Покуль радасцю
Зоймецца дзень.

Толькі смуткам
Настоіцца ранне,
Чорны бусел
З адчаю каўтне
Келіх месяца...
Толькі б не раніць
Першы след твой
У даўняй вясне...

* * *

Чарэнь смылліва грэе сон,
І шыбы вогнішча народзяць —
Бліны
Спакойна падыходзяць,
А шыбы чуюць каласок.

Яны былі калісь пяском,
Шасцелі ціха пад нагамі.
А час ідзе,
А час збягае,
Ім болей не ўзысці званком.

І не адчуюць стагоддзяў дым,
Русі трывожлівае веча.
Князі збіраюцца на сечу —
Цясней сціскаюцца рады.

Асмяглай додніцай званы
Чаканяць сум

І золь расстання.
І пяціпалыя кляны
Лістамі
Блаславяць світанне...

## ЗІМОВЫ ЭЦЮД

Буслянкі зацярушаны сняжком.
І Шапачкай Чырвонаю
Рабіна
І калянее, мерзне,
Як рабыня,
Скідаючы ўсе ягады цішком.

Дзяўбуць сарокі
Свой зімовы дар
І лапкі грэюць
Ля людское хаты.
...Крадзецца кот —
Уздыблены, вусаты,
Каб што ўхапіць
І лататы задаць.

Нясе падтопу —
Ломкія сукі
(У грубцы затрашчаць не горш, чым дровы)
Стары ляснік.
Ляскоча доўгі кій.
З марозу растаюць, цямнеюць бровы...

Вуголле.
Бульба печаная.
Соль.

І хрумстаюць падгарачкі
Унукі.
І ўслонец ля агню
Сагнуўся крукам —
Няўдаліцу ахутаў
Зімні сон.

Прыладжваецца дзед стары на под,
Дзяружку месціць
На чарэнь заўзята.
Мурняўкае на печы рыжы кот,
Уздрыгвае —
Сніць цёплых птушанятак.

## ЖАРТ

Каланіцу з чамярыцай
Жмакалі на вуснах.
Цалавацца і любіцца
Хто мяне прымусіць?
Каляіны ля каліны
У гусіных лапках.
Каланіцы — не маліны —
Ў кубачку прыладжу.
Еж не еж, а будзе поўны
Кубак паліваны.
Пачастунак будзеш помніць
Ох, неспадзяваны...
І не солана сярбаўшы,
Пойдзеш, злуючыся.
Каланіцу не пабачыў? —
Жартаваць вучыся.

## АКТАВА

Музыка гаючая зімы,
Ліст пажухлы мокне на каліне.
З белых сноў, сатканую на міг,
Зімнюю мелодыю пакіну.
І траву пабачыць хочам мы
Каля хаты з ганкам тапаліным...
...Птушкаю азяблаю ў акно
Б'юся ў ноч аслеплую даўно.

* * *

Лімон выцісквалі ў карэц,
Цадзіўся сок,
Жаўтлявы, кіслы.
Быў смак такі,
Нібы сто рэк
Па кроплі горычы пакінулі.

Або сто ўдоў,
Разрыў-траву
Не адшукаўшы,
Наракалі:
«Я адзінокаю жыву,
А на душы бясілля камень».

Я доўга слухаю жальбу
Пакрыўджаных удоў і рэчак.
...Чыю няўмольную журбу
Нясе лімон
Па-чалавечы?

* * *

Курэліся сасновая кара
І пальчыкі птушынак дзьмухаўцовых.
Спяшала я
Сагрэцца ля кастра,
Які спагадай грэў
У шчырых словах.

У роспачы
Зрывала я лісты
І спачування
Ў восені прасіла.
Ты не развёў касцёр,
Не думаў ты,
Што да цябе дайсці
Мне хопіць сілы.

...Ад холаду каляная кара.
Перада мною
Незнаёмы воблік.
Я марыла
Сагрэцца ля кастра,
А ўбачыла
Адзін халодны водбліск.

* * *

Маладзіцы жураўлём рыпучым
На світанні выцягнуць вады.
Будзе ў вёдрах з рожкамі калючымі
Месяц стыгнуць
Самы малады.

Запяецца:
— Месячык мой, месік,
Панясу цябе да каваля.
Скрыпку зробіць ён з цябе,
Каб песню
Падхапіла ціхая зямля.

Войкнуць струны,
Абачнуцца вочы
Ад бадзёрай холадам вады,
Прагучыць рапсодыя дзявочая,
Нібы песня Сольвейг — назаўжды.

Не вяртайся, месячык, на неба,
Вылаўлю далонямі з вядра.
Паглядзі —
Жанчыны цеста месяць
У дзяжы дубовай.
Ім пара
Зажурыцца, бо настала лета
Бабіна.

Асенняе яно.
Маладосць,
Ты чым была сагрэта?
Павуцінкі ў валасах адно.

Блізка хата.
Пырхне з вёдраў месяц,
Жар світання
Выграбе з лажкоў.
...У начоўках немаўлятак песцяць
Маладзіцы,
Як маладзічкоў.

* * *

Мне боязна,
Што ты не прыйдзеш больш,
Што з іншай пасмакуеш
Сок кляновы.
Я думала,
Не прынясеш мне боль,
А ты параніць змог —
Адзіным словам.
Змог папракнуць
(Хоць не было віны)
У здрадзе,
Нечаканай, як маланка.
Прыходжу я з мінулае вясны
Пакрыўджанаю
Ціхай паланянкай.
Магчыма,
Бачыш стомленай мяне.
І хочаш
І сустрэцца, і прабачыць.
...А некалі
Мой цёплы дом мінеш,
І весні клён
Табе ўдагон заплача.

* * *

І апраўданне, як загана —
Навошта спозненасць спагад?
І ў першародным снезе ганак,
І след, бы ў свет, у белы сад.

Навошта млявая ціхмянасць,
Адчай няўпэўненай душы?
Пратэставала болем рана,
Гучала музыка ў цішы.

* * *

А воіны,
Ратаі з Крычава,
У снах яшчэ
Начамі ўскрыкваюць,
Бо ныюць раны незагойныя —
Іх боль адкрыты і агалены...
...Бярозы —
Сумныя пярэстаркі
Шапочуць лісцямі-пярэстамі.

* * *

Зімні холад сцюдзёных рабін.
Шызы змрок сцюжных шыбін сцякае...
Паміраем за права любіць
І ўзыходзіць пасля над вякамі...

## ВЯЧЭРНІ ЭЦЮД

Кумкалі жабы на купінах,
Кнігаўкі сумна кігікалі.
Гнёзды сарочыны клікалі:
«Месяц у нас вы ці купіце?

Стойваем месяц чырвоненькі
Ад буслянят даўгацыбых мы».
Птушкі дражніліся, ціўкалі,
Цвыркалі кволыя конікі.

Вока балотнае свеціцца —
Сарачаняты збаяліся,
Ўгору падкінулі месячык
Жоўтым настоеным яблыкам.

* * *

Сумотнай перапёлкай
Плача поле,
Рыпіць калодзеж
Цяглым жураўлём.
...Смыліць душа
Тысячагоднім болем,
Не зарастае продкаў шлях
Быллём...

* * *

Чарніцамі салоджаныя губы.
І купіны чарнеюць ад жавін.
...Жалкую.
Журавоў тужлівых трубы
Ахаладзілі
Спёку журавін.
Шарэе неба.

Плёсы адзвінелі.
Зляжалы,
Мокне восеньскі пясок.
І косы ў маці мякка заінелі,
Але цвіце
У лесе верасок.

Па чуйным садзе
Верасень ступае,
Напэўна, босы —
Крокаў не чутно.
...Кляновы ліст,
Даверівы, апалы,
Злятае
На цяпло ў маё акно.

* * *

Белы ліст
Чысцінёю бязмоўнай...
Клічу словы,
Сплывае жыццё.
І радзей
Нараджаюцца поўні.
Ашчаджаем сваё пачуццё.

Беражлівей
На ласкі, на вусны.
Як сутонне,
Вачэй глыбіня.
...Праступае палоскаю вузкай
Золак юнага,
Светлага дня.

Нахілюся ў калодзеж.
Прыпомню,
Што крыніцы
Б'юць з самага дна.
...Нараджаецца
Новая поўня,
Калі ёсць у душы
Вышыня.

* * *

Помнікі.
І проста камяні.
Надпісу няма,
Ні барэльефа.
Хто ляжыць?
Ні голасу.
Ні рэха.
Вусцішна душы
І цішыні.

Хто?
Не адгукаюцца гады,
А магчыма, цэлыя стагоддзі.
Людзі каля каменя праходзяць —
Дзед з кійком
І хлопец малады.

Ліўні і спякота
З вышыні
Падаюць
Спрадвечнаю знямогай.

Расказаць нічога
Нам не могуць
Шэрыя,
Нямыя камяні.

* * *

Разлюбіш мяне —
Воля твая.
Паклічаш мяне —
Я не прыйду.

Калінай ступлю
На сцежку тваю.
Ты ягады рві
У верасень мой.

Іх позняй зімой
З вышак здымі.
Напомніць табе іх
Горыч і слодыч
Пра нашу любоў
І расстанне...

* * *

Сцярожка рыпнула масніца,
Дзіця ўвайшло.
Парог падтаў.

І адчыніла маладзіца
Акно
У даўні ледастаў.
І крыгі сінія гарэлі,
Нібы далёкія кастры.
Пупышкі
Шчоўкалі на дрэве,
Хоць сакавік жыў на двары.
О, насланнё!
Застанься побач!..
...Вада жывучая цячэ.
І шэрхне ад марозу полаз.
І штось нязнанае яшчэ...

* * *

Кілішак месяца халодны
Чарэпне сонную ваду.
Звяду няўмольную бяду...
На лузе — белыя палотны.

Чарнее купіна маўклівa
Яшчэ ў самоце без стракоз.
Падснежнік сонечна прарос,
І сэрцу цёпла і шчымліва.

* * *

З позняй восені выплыве лішні
Ашклянелы туман,
Нібы сон.

І не выйшла зялёная вішня
Пад змакрэлы сівы парасон.

Сцюдзянее апошняя песня
У люстэрках азерцаў цішком.
Арабіна згалелая песціць
Жменю ягад
Пад першым сняжком.

* * *

Плакаў дарослы.
Суцешыць яго,
Нібы дзіця, немагчыма.
Я падышла.
Апякло як агонь:
Плакаў —
Мужчына.

## ТРЫПЦІХ

*Марыі Сяргееўне,*
*маці В. М. Шукшына*

### I

Чорна-белы змрок.
Сівее вішаннік.
І жыццё і смерць цякуць з вякоў.
Я без крылаў птушка.

Крочу сцішана,
І за мною — спуджаны спакой.

Сум журлівы.
Арабескі восені
Позіркам стамлёным абвяду.
І сцячэ лісцё
Занадта спознена
З дрэў халодных, стылых
У ваду.

Ноч мая
Світаннем не завершыцца,
Чуйны сон абудзіць напамін.
Паміраюць дрэвы.
Крочу першая:
«Восень, я — твой ліст.
Мяне вазьмі...»

II

Шасціць
Шапаткая шурпатая замець,
І дзічка
Скарчэла ў зімовым бары.
Я ціха ўглядаюся
Ў белую памяць,
Журботна гляджу,
Як гарэць ліхтары.

Губляю цябе.
І наноў не знаходжу.
А мне б адшукаць
Твой засыпаны след.
А сэрца крычыць:
«Я адно — калаброджу,

Як лодка
Пры згубленым звонкім вясле».

Сваю адзіноту
Хаваць немагчыма,
Ідзе з неманы насцярожлівай цень:
«Жанчына...
Твой боль несуцешны, жанчына...
Я чую,
Як ён, нібы дрэва, расце».

Жыццё адыходзіць.
Надзеі знікаюць.
Чаканіць зіма
Кандэлябры з галін.
...У думках
Да рук я тваіх прынікаю.
Сняжыны звіняць,
Як званы на зямлі.

## III

Снежаніцу вярбіны шчымлівыя
П'юць нагбом,
Як жывую ваду.
Я маўклівая,
Зноўку маўклівая
Золкай сцежкай стамлёна іду.

Спатыкнуся на роўным.
Балючае
Адыходзіць,
Як сноў дабрата.
А душа мая спее пявучая,
Толькі ёй немагчыма адтаць.

О, сутонне пяшчоты растрачаней,
Дзе тваё дарагое цяпло?
Чорнай рыскай з барвяным
Пазначана
Абламанае змрокам
Крыло.

## ТРЫПЦІХ

### I

Чало туманю.
Чужына.
Сініц чародкі над зімою.
Я — не адна,
Але — адна.
І час не спыніш,
Ані ўмоліш.

Азеліць горкая віна,
І свеціць вогнішчамі поўнач.
Ці помніш ты мой сум?
Ці помніш?
Каханне,
У чым яго віна?

І дапалаў чмяліны жар.
Чарнее човен на прыколе.
Мароз палан дачасна зжаў.
Бялее стомленае поле.

І позна пачынаць ізноў
Світальна верыць
І вячорна.

І каганец самоты горны
Жыве
Над колішняй вясной.

## II

Чарацінка адзвінела,
Знежыла,
Шапацела, нібы лісце, і цвіла,
Як гравюра —
Колер змроку і святла,
Цнота снегу
І пякельная імгла.

Ачышчалася ад роспачы душа,
Чырвань яблыка
Прасілася з каша.
Дзед з ідыліі
Саломаю шуршэў,
Маладзік з каўша
Лагодзіў першы гнеў.

І вяселіла журботную далонь
Варажбітка,
Адкідаючы на скронь
Сіні локан:
«Доўга, вер мне, пражывеш,
Будзе ўнук,
Сваім ты імем назавеш».

Крохкі пах вярбовай голькі ажываў,
І сціскалася зжаўцелая трава.
...Адыходзіў сон
І даўкая журба
На маіх
Маўчаннем стомленых губах.

## III

Зло імжыць
Нудным жоўтым дажджом.
Нелюбові счарнелая памяць.
Над халодным забытым лаўжом
Барвянее кляновая замець.

Белы сон на прагалах вясны
Сплыў,
Нібы палавень сакавіцкі.
Адчужэнне.
І стынуць адны
Два лісткі пад вярбінаю ніцай.

Стынуць дрэвы.
Змрачнее трава.
У нябёсаў —
Кароткая просінь.
Будзе змрошчыны мне выбіваць
Ля вачэй
Сумна-горкая восень.

Узыходзіла перад вачмі
Арабін адыходнае веча.
«Ты вазьмі мяне, любы, вазьмі
У свой дзень,
Сваю ноч
І — свой вечар».

## ТРЫІІЦІХ ПАМЯЦІ

*Аркадзю Куляшову*

### I

Чалесніку глушэць сцмянела, сцішна,
Шасцець агорклым яблыням спаўна.
Чарэпаць прыпамін аб позніх вішнях
І зачынаць былое давідна.

У крэкце маразоў
Світальным соснам
Яшчэ начэць вачамі вечарніц.
Сашчэмліваю пальцы.
Клічу сонца,
А нада мной злавесны крык начніц.

І ледзяное тхло заўчасна пінькне
Халодным ледзяшом на дрэве сноў.
О, памяці жалобная хусцінка,
Табою ахінаемся ізноў...

### II

Ігліца, шчадроўкі радном,
А не бросняй
Атульвай.
Лучыну запаліць зіма.
Нашчадкаў нашчадак,
У прыцемку познім
Чакай —
Вечнасць ціха падыдзе сама.

Грамнічныя свечкі атухлі, сатлелі,
Падковы на сценах — на шчасце...

Няўжо
Цярнелі любімыя ў клічы мяцеліц
І броснеў
Кахання святы беражок?

У змоўклым сінічным ляску без патолі
Растуць курганы
Непазбежна цішком.
...Нашчадкі,
Вы нас не пакіньце без болю,
Мы свецім над вамі
Сівым веташком.

## III

Падковамі пагбаная паляна
Чужэе чарнабрыўцамі даўно.
Зачацца прыпамінам?
О, не рана
Заручыны спраўляць,
Глушэць ад сноў.

Чапляе хатулёк парожні вечар,
Вызбірвае і зоры і сады.
А хлопчык падцікоўвае з парэчак,
Як глотку драч
Дзярэ на халады.

О хлопчык ідылічны, пілігрымам
Табе здаецца месяц над зямлёй.
Пялегуеш дажджынкі... Неба грымне.
Злагоду шле каму?
Або праклён?

* * *

Магчыма, будзе абнаўленне.
Магчыма, будзе немата.
Баюся розных асляпленняў,
Баюся ад людзей адстаць.
І зачарсцвець душой баюся.
Мне горш за смерць неправата.
Магчыма, будзе немата,
Ніколі славаслоўя вусны
Не вымавяць, у гэта вер.
Лісlівых толькі ненавіджу.
Чаму ж я прысвячала хіжым,
Не распазнаўшы іх, свой верш?

* * *

Па шчаўе мы хадзілі ў Званскі луг —
Так месца называлася за Сожам.
І пальцы зелянілі
Краскай-сонам,
А не было прынук
Для нашых рук.

Ішлі па мелкаводдзю праз раку,
Вада ў калені білася пагрозна.
Мы рвалі шчаўе
Храбусткое, роснае,
Што торкалася,
Ззяблае, ў руку.

З маленства павыраставалі даўно,
А ўсё яшчэ гучыць у хаце часта:

«Ці пойдзем заўтра
Ў Званскі луг па шчаўе?»
Што ж, пойдзем,
Там расце яшчэ яно?

## НАРАДЖЭННЕ

### I

Тахкае самотна і здзічэла
Чорная сякера на двары.
Ліст апошні на клянах станчэлых
Позняю барвянасцю гарыць.

Поўня адыходзіць...
Бразне студня —
Ледзяніць пагнутае вядро.
Плечукі зямляк,
Як крылле, стуліць
Золкам,
Ледзь не зімнаю парой.

Дачакае конніка і ўчуе,
Што вальней народу будзе жыць,
Што зямля вялікая вяшчуе
Аб чырвоным новым рубяжы.

Чорны дзень сплывае.
І ўзыходзіць
Сцяг чырвоны
Колерам пад мак.
А жыццё тугое калабродзіць,
І паноў пыхлівых больш няма.

І пяром гісторыі вячыстай
Піша летапісец —
наш народ,
Што неперсаможна і ўрачыста
Новы пачынаецца ўзыход...

## II

Моргае газоўка ў курнай хаце
Ці лучына тонкая трашчыць?
О, Радзіма,—
Найсвятая маці,
Ты дзяцей пазнаеш і ўначы.

І з біблейскай мроі пракаветнай
Аж у год семнаццаты глядзіш.
О, Радзіма,
Хай вада прыветна
Точыцца з-пад тоненькіх ільдзін.

Лістапад каляніць шэрхла травы,
Абсыпае інеем палі.
Над маёю сонечнай дзяржавай —
Снежныя цнатлівыя чмялі.

Час адлічыць шмат яшчэ высокіх
Залатых гадоў-маладзікоў.
Хай курантаў
Не змаўкае клёкат
І жыве літаўраў неспакой.

* * *

На снезе
Сакавіцкія люстэркі,
І думкі,
Нібы парасткі вясны.
І цёплым ранкам,
Калі месяц сшэрхне,
Дзяўчынку з ледзяшом
Спагодзяць сны.

Хай сон счакае
Да вясны наступнай,
Як моркаўку,
Дзяўчо грызе лядзяш.
Мне яблынька
У шыбу ціха стукне:
«За цёплыя пупышкі ты аддзяч».

А я лаўлю
Вясёлыя ільдзінкі.
Ручай не прыручыць —
Бягун, бяжы!
А ледзяшы з падстрэшша
Гулка дзінькаюць,
Як конікі
На жнівеньскай мяжы.

* * *

Снежаніцай сына напаю,
Я яе для сына адшукаю.
Толькі б ён панёс

Любоў маю
Да зямных і верасняў і маяў.

І калі бярэ ў палон адчай
І няма дзе болей прытуліцца,
Я спагаду ў сынавых вачах
Адшукаю,
Нібы снежаніцу.

* * *

Ягады збірае ў каску хлопчык —
У варонцы вырасла трава.
І анюціны сінеюць вочкі,
Дзе магільна цвыркала жарства.

Конікі ў бліндаж упарта лезуць,
Дыхае пасля баёў
Зямля.
...Старадрэвіну
У юным лесе
Абвіла злавесная змяя...

* * *

Акрэсліць
Час-скульптар маршчыны.
Сталеем мы.
Старэем мы.
Ды вечна юная Айчына
У зменах сонца і зімы.

У зменах восеняў і вёснаў,
У зменах сонца і цяпла,
Нашчадак мой звонкагалосы,
Я да цябе
Мой шлях вяла.

І што з таго,
Што мы старэем,
Што беліць скроні сівізна?
Мы свецім,
Мы вачамі грэем.
Нашчадкі, помніце пра нас.

* * *

Лось рогі скіне спуджана
Ля берлагу мядзведжага,
Па купінах і лужынах—
Да бору
У адведзіны.

І ланкі з алянятамі
Сярод ядлоўцу тоўпяцца.
Цяцерка з пылянятамі
Сухмень нагамі тоўхае.

І чалавек здзіўляецца,
Адчай і гнеў адкладвае.
Заўсёды ён схіляецца
Перад жыцця суладнасцю.

* * *

Журавіны спелыя прыносіла
Восень позняя ў лазовым кошыку.
Слухала я доўга
Казкі восені,
Капыткі мне стукацелі.
Хутка казка добрая мінулася.
«Дзе алень?» —
Я раптам схамянулася.
Словы супакойвалі
Бабуліны:
«Сніла сон ты.
Еш, унучка, бульбінку».
У маленстве ўсё было заечае,
Толькі вось заечае —
Не вечнае.
І цяпер жыву
Ў чаканні нечага,—
Трапяткога,
Добрага,
Заечага...

* * *

Роднасць паміж небам і зямлёй —
Вечная,
Жывучая,
Святая.
Жаўранак у вышыні лятае,
Птушаняты ў купінцы малой.

Гоніцца сузор'е Ганчака,
Ціхая Мядзведзіца пасецца.
Свеціцца
Святло маладзіка
У рацэ,
Як тонкае вясельца.

* * *

Смяецца маладзік шчаслівы.
Стараецца да поту
Лівень.
О, сцюжы белыя і вёсны,
Няўжо і некалі былі вы?

Шыпшыннік цвіў,
Жаўцела лісце,
І шчэбет птушак плыў калісьці.
Рака стагоддзяў не знікала,
Давала пакаленням выйсце.

* * *

Грыбасей у жніўні тупатаў
Між ялінак,
Дзе буяла папараць.
Шышкі з шапаценнем ціха падалі,
І здавалася,
Што ўсё не так.

Дзеці замаўлялі:
«Сыпані,
Буйны дождж,
Па буяках,
Па верасе.
Кошыкі баравікамі ў верасні
З коптурам напоўнім...
Секані...»

Грыбасей,
Даверлівасць пасей
І вярні ў маленства незваротнае,
Добрае,
Кароткае і роднае,
Што ідзе па золкавай расе.

* * *

Зімна.
Угледжуся ў золак,
Дзе разыходзяцца цені:
Неба даўно не зорыць...
Любы,
Дзе ты,
Асенні?

* * *

Алень рагаты ціха тупаў,
Да лесніка ў акно пастукаў.
Дзіця павесялела ў хаце,

Залапатала:
«Чый ты, дзядзя?»

Маўчаў ален.
Губамі плямкаў,
Не мог знайсці
У хату клямку.

* * *

Шызы комін.
Ільдзінка падталая.
Б'ецца вея,
А ў грубцы гудзе.
Ные сэрца —
З табой не спаткалася,
Хоць наўкол было многа людзей.

Бегла я з велічэзнага горада
У лясы,
Дзе мяцеліцы звон.
Нескароная,
Моцная, гордая...
Біла неба спатолена ў звон.

Збыўся ты.
Толькі я не парушыла
Цішыню,
Адзіноту,
Адчай.
Мне сцяжынку,
Засланую ружамі,

Не жадай.
Я хачу памаўчаць.

Дровы ў хаце.
І пахне бяростаю.
Комін шчасна клякоча.
І мне
Сняцца стрэчы,
І горкія ростані,
І журлівыя гукі саней.

* * *

Церам-церамок, нібы Сезам.
Ды не ў радасць церамок дзяўчыне.
Ягада на пруткай ядлаўчыне,
Як акамянелая сляза.

Над зямлёй павіс
Манашкі плач,
Над стагоддзямі,
Над церамамі:
«Селянін мяне кахае, мама,
Самы добры ён,
Ты мне прабач...

З ім шчаслівай буду,
Больш ні з кім!» —
Крык адчайны, як званы ў нягоду.
Манастыр.
Заклёны, як цвікі.
Немы стогн вачэй:
«Што ж не прыходзіш?»

Церам,
Дзе спаткалася дзяўчо
З тым,
Хто для яе даўно загінуў,
Як Сезам без залатых ключоў.
Хто адчыніць?
Пад дажджамі стыне.

Купалы купаюцца даўно
Ва ўспамінах аб былым,
Далёкім.

...Ефрасіні Полацкай акно
Безнадзейным пазірае вокам.

* * *

Змяшаліся і першы плач жыцця,
І горкі сум,
І сцішанасць былога.
Хаваю рызыкоўнасць пачуцця
І палыны спялю
Ад вока злога.

Трыпутнікам жагнаецца зямля,
Сыходзіць ноч халодная дачасна.
І позні васілёк
Узняў чмяля
У чашы сіняй,
Як перад прычасцем.

* * *

Трашчаць бярозавыя дровы,
Жарынкі тухнуць у шчытку.
Кладзецца на тваю шчаку
Вуголляў водбліск вечаровы.

У коміне скуголіць вусціш
Адталі шыбы ад цяпла.
Цябе я ў казку завяла,
А ты мяне ў сваю
Ці пусціш?

* * *

Што не збылося,
Адышло,
Назад не хочуць продкі клікаць.
Сляды па стэпе замяло...
І ноч —
Падстрэленай буслiхай.

Качэўе недзе разаб'юць,
Пасля сядла
Цяжэюць крокі.
Качэўнікаў у сне завуць
Пакінутыя імі продкі.

* * *

Луста хлеба —
Лебяда, асцюк,
І далёка так да караваю.
Гімн
Салдаткі хай пяюць жыццю,
Небыліцы
Беды адвяваюць.

Сельбішчы,
Дзе ў котлішчах яшчэ
Астываюць чорныя махныткі.
Дакраніся —
Жарам апячэ
Печ,
Што помніць горкія кулідкі.

* * *

Кудзелю смыкалі кабеты,
Мусолілі чэзлую воўну.
Валёнкі каталі.
Сурвэты
Саткалі — пасаг будзе поўным.

І песцілі песню на вуснах:
«Ой, раненька пойдзеш, маліна».
Палотны на лузе бялілі,
Рушнік білі пранікам вузкім.

І скочвалі ў хаце палотны,
У святле пацьмянелых асмалкаў,

Пасаг з саматканых кавалкаў,
Бялюткі,—
Здаваўся халодным.

Зырчэлі на досвітку шыбы,
Тады маладая, напэўна,
Кашулю любімаму шыла,
Рушнік вышываючы ў пеўні.

* * *

Не адарвацца б ад крыла
Маіх штогодніх лістападаў.
Славянскаю дзяўчынай Ладай
На сцежку я тваю прыйшла.

Я не збаялася згрызот,
Людское чэрствасці балючай.
...Ступаю, нібы на лязо,
На даўніх крыўдаў негаючасць.

* * *

Ты не тужы —
ўспамінам нашым дзінькаць,
Жадліва адгукацца нам здаўна.
Халодзіць нас
Не першая ільдзінка,
А зазімкам
Халодзіць сівізна.

Кранаю дрэвы.
Пацяплелі травы.
А калаўрот накручвае віткі.
І голуб неспалохана-рухавы
Успырхнуў смела
З сынавай рукі.

* * *

Чалавека крыўдзілі сябры.
Ворагі пакеплівалі часта.
І адказам ім было маўчанне
І ўсмешка: «Ўсё перагарыць».

Раўнадушнасць
Ці, наадварот,
Чалавечнасць
І ўсёдаравальнасць?
А жыцця круціўся калаўрот,
За спіною кепікі трываў ён.

І было так цяжка на душы,
За варожасць,
За тупыя кпіны.
І было няёмка варушыць
Тое,
Што заўважыць мы павінны.

Апраўданне не знайсці сябрам.
Ворагі
І так здалёку бачны.
Што было на сэрцы?

Мо кара,
Пад якой
Нячутна дрэва плача.

* * *

Сок. Жывіца. Росы. Слёзы.
Чуйны водгук на жыццё.
На прагалінах бярозы,
Нібы цені верацён.

І кудзеліцца бярозка,
І бярозавік цячэ.
Смягнуць беленыя кросны
Ля азёр — лясных вачэй.

І сувоямі ў міждрэўі
Пасівелыя імхі.
...Хай з зямлі нясуць карэнне
Аж да сонца арахі.

* * *

Спіць зораў высмяглае полымя
У коннікаў у валасах.
І тураў рык
Адчайна ўспомніцца,
І цень аснежаных прысад.

Гукаю —
З памяці мінулае...

Сцякае шыльнік з ціхіх хвой.
...І мне Рагнеда адгукнулася,
І выйшла з цераму жывой.

Сціскае холад рукі тонкія,
Палынны сум сцінае твар.
А людзі ў латах шумна тоўпяцца,
І з рэхам
Раіцца абшар.

І князь дае прысягу Кіеву.
...Злятае ноч з майго пляча.
О, продкі,
Вы нашто пакінулі
Мне нераздзелены адчай.

## СПРАДВЕЧНАЕ

### I

Ядловец ягады чарніў...
Забрала стойвалася мрочна.
Маліла маці:
«Сцішся, хлопчык,
Маўчаць у полі камяні».

Дзілінкне звон у цішыні,
Адліжыць.
Замчышча знямела.
Успомні маму ў сукні белай.
Спі.
Засынаюць камяні.

Мядзведзь бярлог свой зачыніў
Імхом кашлатым,
Дзеразою.
Замежкі з пруткаю лазою.
Маўчаць у полі камяні.

Звон ціха падае на лес...
І месяц зазімкава стыне.
Спі, мой сыночак,
У цяпле,
Не адлятай гусіным клінам.

II

Упалынела яблыні маўчаць...
О дзічка,
Што не робішся салодкай?
Ссякуць цябе.
І з першаю паводкай
Вяслом у човен ляжаш.

І адчай
Халодны і шчымлівы захлыне.
Нібы ў апошні шлях сябе праводзіш,
Клянам чубатым,
Гонкім па вясне,
Ля курганоў высокіх калабродзіць.

Мы ўсе — зямля...
Мы ўсе прыйшлі з палёў.
Заходзіць сонца.
Зойдзем мы таксама.
Сынок,
хай радаводны васілёк
Любві тваёй самотна шэпча:
«Мама».

І ўчую галасы тваіх дзяцей,
Чаромхі пошап,
Вогнішча свячэнне.
Хачу я
Аблачынкаю ўзляцець
Да яблыні —
Жыцця майго каўчэга.

Хай не сякуць яе,
Хай не сякуць,
Яна —
Мой трапяткі, маўклівы помнік.
Яна —
Сляза, гаротная пакуль,
І палыну быцця
Сівая поўня.

* * *

Падпаліны парэпаных асін...
Сляды баёў —
Аголеныя дрэвы,
Што сохнуць,
Хоць жыве яшчэ карэнне —
Кары няма.
І змоўклі галасы.

І гнёздаў птушкі тут сабе не ўюць,
Галеюць сіратлівыя асіны.
Тут совы ў горкіх дуплах галасілі,
Журботу праклінаючы сваю.

І пчолы
Не звіваюць тут раёў —

Тут шум лісця
Даўным-даўно забыты.
І сохнуць дрэвы,
                    ўсім вятрам адкрытыя,—
Скалечаны вайной
Лясны раён.

Падпалінам ад сонца палавець.
Ад роспачы
Асіны пасінелі:
«Каб ссек нас
Хоць на дровы чалавек,
Хоць некага б,
Хоць трохі адагрэлі...»

* * *

Цьмяны сум.
Сон-трава на прагалінах.
Ноч імжыць.
Адцвілі ледзяшы.
І на целе бярозы падпаліны,
Як адбіткі збалелай душы.

Да чаромхі далёка.
Ці споўніцца
Белы месяц
У белым акне?
І шчарбаціцца тонкая споўніца,
І кудзеля аблокаў,
Як снег.

Засмылела мне —
Чую, як стукае
Чорны дзяцел
У белую ціш.
І калюжыну вёсны прахукалі,
Толькі ты
Мне ў адказ памаўчыш.

Зледзянела дыханне.
Ці споўніцца
Човен месяца,
Цень верасоў?
І цямнее,
Імжыцца бяссонніца,
У латак чуйна цэдзіцца сок.

* * *

Зверабой і бяссмертнік звяжу.
Пахнуць зёлкамі дзедавы вышкі.
А магіла дзядулева —
Выспа,
Пад аховаю снегу, дажджу.

Дзед Сямён,
Гэта ява ці сон?
Стыне зелле,
Цямнеецца ў кубку.
Ты хварэеш.
Зязюля кукуе,
І трымціць залаты каласок.

Серп іржавы.
Ім болей не жнуць.
Восень кружыць у белых бярозах,
І твае зарастаюць барозны
Сон-травою,
Што кліча вясну.

Забыцця папрасіла трава,
Забыцця не жадае карэнне.
Дзед гаючыя травы збіраў
Для майго празарэння.

## ПРЫПАМІН

Белы дзень сцярожкі,
Як алень.
Я — рабіна
З вусцішы сатлелай,
Выйду я
З часін акамянелых,
Буду ў горкай чырвані спялець.

Груганы злятаюцца шалёна —
З дрэў крычаць пра мёртвых і жывых.
Я адчую звыкла і стамлёна,
Што ля каранёў
Няма травы.

Што жыву адрынутай манашкай
І мінулай песні не вярну.
...Дашугала вёска ў плачы цяжкім

Хлапчука,
Што ля мяне прыснуў.

Ён адзін застаўся, ссірацелы,
Пасвіў мокрапысае цяля.
Ягады з галін маіх зляцелі,
І ад іх
Знямела ўся зямля.

Больш не нараджала я ніколі
Чырвань ягад
І лісцё надзей.

...Хто сказаў —
Вайна пякельным болем
Джаліць толькі птушак і людзей?

* * *

Выйшла з хаты ў ясны сад жанчына,
Сонцу пакланілася у пояс:
«Дзякуй,
Што любімую Айчыну
Ты, маё Вялікае,
Так помніш.

Ты жыццё даеш мурашцы, птушцы,
Ядлаўчыне,
Папараці кволай,
Дзецям,
Што на матчынай падушцы
Горкіх сноў не бачылі ніколі.

Дзякуй, сонца,
Мы, калі народзім
Дзіва найдзіўнейшае на свеце,
Дык завём яго пры ўсім народзе
Сонейкам,
Што нам да скону свеціць».

# ЗМЕСТ

**Забалоцкая Л.**

З-12 Радаводны васілёк: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1981.— 53 с.

20 к.

Характэрнай рысай зборніка з'яўляецца знітаванасць чалавека і зямлі, пазнанне сябе самога цераз вечнага і мудрага майстра, якім з'яўляецца прырода.

З $\frac{70403-074}{М\ 302(05)-81}$ 42—81

**ББК 84 Бел 7**
**Бел 2**

Людмила Васильевна
ЗАБОЛОЦКАЯ

*Родословный
василек*

Стихи

Минск, издательство
«Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Р. І. Барадулін
Мастак В. А. Губараў
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава
Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал
Карэктар Я. Ф. Харко.

ІБ № 1005

Здадзена ў набор 14.01.81.
Падп. да друку 13.04.81.
АТ 07550. Фармат 70×90$^{1}/_{32}$.
Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная.
Высокі друк. Ум. друк. арк. 2,05.
Ул.-выд. арк. 1,97. Тыраж 6000 экз.
Зак. 1334. Цана 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура»
Дзяржаўнага камітэта БССР
па справах выдавецтваў,
паліграфіі і кніжнага гандлю.
220600, Мінск,
праспект Машэрава, 11.

Паліграфічны камбінат
імя Я. Коласа.
220005, Мінск, Чырвоная, 23.